Пралятары ўсіх краін, злучайцеся!

СУВЯЗЬ САВЕЦКІХ ОРГАНАЎ ПАМІЖ САБОЙ І МАСАМІ—АСНОВА САВЕЦКАГА БУДАЎНІЦТВА.

# БЮЛЕТЭНЬ

## САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ БЕЛАРУСКАЕ ССР.

30 ЖНІЎНЯ 1927 г.

№ 14 (39)

3-ці год ВЫДАНЬНЯ

ВЫДАНЬНЕ СНК БССР
МЕНСК—1927 г.

# ЗЬМЕСТ.

## *Частка афіцыйная.*



## *Частка неафіцыйная.*

## 1. Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

АБ АДЗНАЧЭНЬНІ Ў ПАВЕСТКАХ АБ ЯЎЦЫ Ў СУД НА ІМЯ ВАЙСКОЎЦАЎ, ЯКІЯ ЗНАХОДЗЯЦЦА Ў ШЭРАГАХ РАБОЧА-СЯЛЯНСКАЙ ЧЫРВОНАЙ АРМІІ, ЗЬВЕСТАК АБ ТЫМ, ПА ЯКОЙ СПРАВЕ ЯНЫ ВЫКЛІКАЮЦЦА—ПА ГРАМАДЗЯНСКАЙ ЦІ ПА КРЫМІНАЛЬНАЙ.

*Усім Акруговым і Народным Судом.*

Ваенны Пракурор Беларускай Ваеннай акругі паведаміў Н. К. Юстыцыі, што ў павестках аб яўцы ў суд, якія пасылаюцца судамі на імя вайскоўцаў у Чырвоную Армію, незаўсёды адзначаецца, па якой справе, грамадзянскай ці крымінальнай, яны выклікаюцца, што перашкаджае выкананьню пастановы СНК СССР за 14 сьнежня 1926 г. „Аб парадку адшкадаваньня выдаткаў па праезду вайскоўцаў, якія знаходзяцца ў шэрагах Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі і выклікаюцца ў агульныя судовыя ўстановы па крымінальных справах“ (З. З. СССР 1927 г. № 2, арт. 22).

Паводле гэтай пастановы вайскоўцы толькі пры вызавах іх у агульныя судовыя ўстановы па крымінальных справах едуць туды па вайсковых перавозачных дакумэнтах, у той час, як пры вызавах іх агульнымі судамі па грамадзянскіх справах праезд робіцца на агульных з іншымі грамадзянамі падставах, г. зн. за грошы.

З прычыны гэтага, адзнака ў павестках на імя вайскоўцаў, якія знаходзяцца ў шэрагах Чырвонай Арміі, аб тым, па якой справе, грамадзянскай ці крымінальнай, яны выклікаюцца ў суд, набывае асаблівае значэньне для вайсковых часьцей пры вырашэньні імі пытаньня аб выдачы вайскоўцам, якія выклікаюцца ў суд, адпаведных перавозачных дакумэнтаў.

На падставе выкладзенага вышэй Народны Камісарыят Юстыцыі прапануе:

Пры складаньні і пасылцы павестак на імя вайскоўцаў, якія знаходзяцца ў шэрагах Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі, па вызавах іх у суд строга сачыць за тым, каб у павестках было дакладна паказана, па якой справе, грамадзянскай ці крымінальнай, вызываецца вайсковец.

Народны Камісар Юстыцыі БССР **М. Сэгаль.**

Старшы Інспэктар Н. К. Юстыцыі БССР **Ю. Барышаў.**

6 жніўня 1927 г.
№ 75.

## 2. Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

АБ АСОБАХ, ЯКІЯ ПАВІННЫ НАЗНАЧАЦЦА ДА ВЫКАНАНЬНЯ АБАВЯЗКАЎ НАТАРЫУСА Ў ВЫПАДКАХ ХВАРОБЫ, ВОДПУСКУ, АДСУТНАСЬЦІ АПОШНЯГА АБО Ў ВЫПАДКУ ВАКАНТНАСЬЦІ ГЭТАЙ ПАСАДЫ.

Паводле § 12 інструкцыі Народнага Камісарыяту Юстыцыі па натарыяту за 16 мая г. г. № 35, выданай у разьвіцьцё Палажэньня аб дзяржаўным натарыяце БССР за 31 сьнежня 1926 г. (З. З. БССР 1927 г. № 5, арт. 17), якая своечасова разаслана ўсім натарыусам і зьмешчана ў № 6 часопісі „Весьці Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР“, у выпадках хваробы натарыуса, водпуску, адсутнасьці яго або ў выпадку вакатнасьці яго пасады, выконвае апошнюю другая асоба, назначаная старшынёю адпаведнага акруговага суду.

Такім чынам, памянёная вышэй інструкцыя фармальна не абмяжоўвае кола асоб, якія могуць быць назначаны старшынёй акруговага суду да выкананьня абавязкаў натарыуса ў паказаных выпадках; аднак, важнасьць натарыяльных функцый патрабуе з боку старшынь акруговых судоў асаблівай увагі пры вырашэньні пытаньня аб тым, на каго павінна быць ускладзена ў паказаных выпадках выкананьне абавязкаў натарыуса, бо ад апошняга патрабуецца адпаведная кваліфікацыя, упэўненасьць у тым, што ўскладаемыя на яго абавязкі ён будзе добра выконваць.

З прычыны памянёнага вышэй, а таксама прымаючы пад увагу, што назначэньне да часовага выкананьня абавязкаў натарыуса асоб з складу тэхнічных працаўнікоў акруговага суду або натарыяльных кантор, якія атрымліваюць пэнсію ніжэй пэнсіі натарыуса, зьвязваецца з пытаньнем аб выплаце ім розьніцы на падставе арт. арт. 62 і 63 Код. Зак. аб Працы і што гэтая выплата супярэчыла-б рэжыму эканоміі, Народны Камісарыят Юстыцыі прапануе:

Назначаць да выкананьня абавязкаў натарыусаў у мясцох знаходжаньня акруговых судоў членаў акруговага суду, а ў іншых мясцовасьцях—народных судзьдзяў адпаведных раёнаў або гораду, дапушчаючы прызначэньне іншых асоб, з складу тэхнічных працаўнікоў акруговага суду або натарыяльных кантор, да выкананьня абавязкаў натарыусаў у самых выключных выпадках і на самы кароткі тэрмін, як напрыклад, на 5—7 дзён.

Нам. Народнага Камісара
Юстыцыі БССР **С. Эднэрал.**

Ст. Інспэктар Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР **Ю. Барышаў.**

16 жніўня 1927 г.
№ 13 ц.

---

Зацьвярджаю.
Народны Камісар Фінансаў
БССР І. Васілевіч.
23 жніўня 1927 г.

## 3. Інструкцыя Падатковага Кіраўніцтва Народнага Камісарыяту Фінансаў БССР

АБ ПАДЛІКУ І СПРАВАЗДАЧНАСЬЦІ ПА АДЗІНЫМ СЕЛЬСКА-ГАСПАДАРЧЫМ ПАДАТКУ НА 1927-1928 Г.

### І. Падлік паступленьняў падатку.

§ 1. Прымаемыя раённымі выканаўчымі камітэтамі і касамі Народнага Камісарыяту Фінансаў плацяжы па сельска-гаспадарчым падатку як непасрэдна ад платнікаў, так і перасланыя па пошце,

запісваюцца ў асобныя рэестры паступленьняў с.-г. падатку. Рэестры зьяўляюцца асноваю для запісу паступленьняў падатку па кнігах і для вядзеньня падліку выкананьня падатку асобнымі платнікамі.

§ 2. Для платнікаў свайго раёну раённыя выканаўчыя камітэты адчыняюць рэестры па кожнаму сельскаму савету. Для платнікаў, якія пражываюць у іншых раёнах, раённыя выканаўчыя камітэты адчыняюць адзін рэестр на раён. Рэестры запаўняюцца ў 2-х экзэмплярах, адзін з якіх застаецца ў райвыканкоме, а другі перасылаецца ў сельскі савет (па плацяжох, прынятых ад платнікаў свайго раёну па данаму сельскаму савету), або ў адпаведны раён. вык. камітэт (па плацяжох, прынятых ад платнікаў іншых раёнаў).

§ 3. Касы Народнага Камісарыяту Фінансаў вядуць рэестры паступленьняў па раёнах. Першы экзэмпляр рэестру застаецца ў касе, а 2-гі экзэмпляр пасылаецца ў адпаведны раён. вык. камітэт.

§ 4. Рассылка другіх экзэмпляраў рэестраў па сельскіх саветах і райвыканкомах робіцца не пазьней наступнага за апярацыйным дню.

§ 5. Штодзённа ў канцы апярацыйнага дню, касір раённага выканаўчага камітэту альбо касы Народнага Камісарыяту Фінансаў запісвае ў рэестры ітогі паступленьняў па розных крыніцах (аклад, пеня, нядоімка) і зьлічае гэтыя ітогі з наяўнасьцю касы. Пасьля праверкі рэестры штодзённа падпісваюцца старшынёй раённага выканаўчага камітэту альбо яго намесьнікам і касірам, а ў касах Народнага Камісарыяту Фінансаў—касірам і бухгальтарам.

§ 6. Штодзённа ітогі рэестраў, пасьля іх праверкі, заносяцца ў асобную кнігу па падліку паступленьняў сельска-гаспадарчага падатку (ф. № 5).

*Увага.* Кніга падліку паступленьняў сельска-гаспадарчага падатку вядзецца адначасова з касавай кнігай раён .вык. камітэту. У апошняй адзначаецца агульная сума паступленьняў падатку за дзень па графе с.-г. падатку.

§ 7. Раённыя выканаўчыя камітэты, атрымаўшы другія экзэмпляры рэестраў ад іншых раён. вык. камітэтаў і кас Народнага Камісарыяту Фінансаў, складаюць па іх сьпіскі платнікаў па сельскіх саветах і адсылаюць іх у належныя сельскія саветы для адзнакі ў асабовых рахунках платнікаў.

*Увага.* У кнігу па падліку паступленьняў падатку, а таксама ў тэлеграфнай і паштовай справаздачнасьці даныя паступленьняў падатку па другіх экзэмплярах рэестраў, якія атрыманы ад іншых раён. вык. камітэтаў альбо кас Народнага Камісарыяту Фінансаў, не зьмяшчаюцца.

## II. Падлік падатковых паступленьняў ў сельскіх саветах.

§ 8. Сельскія саветы, на якія акруговымі выканаўчымі камітэтамі будзе ўскладзен прыём с.-г. падатку (увага да § 421 Інструкцыі Народнага Камісарыяту Фінансаў СССР аб парадку выплаты падатку), заводзяць рэестры паступленьняў падатку ў двух экзэмплярах.

§ 9. Па сканчэньні апярацыйнага дню ітогі па рэестру зьлічаюцца з наяўнасьцю касы. Пасьля праверкі рэестры падпісваюцца старшынёю сельскага савету і асобай, на якую будзе ўскладзен прыём плацяжоў. Абодвы экзэмпляры рэестру сумесна з прынятымі грашмі і аблігацыямі перасылаюцца ў раённы выканаўчы камітэт.

§ 10. Раённы выканаўчы камітэт, атрымаўшы ад сельскага савету грошы і рэестры, правярае ітогі па ўсіх графах рэестру, робіць параўнаньне ітогаў з наяўнасьцю і запісвае ітогавыя даныя рэестру ў кнігу па падліку паступленьняў с.-г. падатку (ф. № 5). Адзін экзэмпляр рэестру застаецца ў раённым выканаўчым камітэце, а другі перадаецца сельскаму савету.

*Увага.* Абодва экзэмпляры пасьля праверкі падпісваюцца загадчыкам фінансавай часьці раён. вык. камітэту і касірам.

## III. Падлік выкананьня падатку.

§ 11. Падлік выкананьня падатку асобнымі платнікамі вядзецца ў сельскіх саветах. Для гэтага сельскія саветы запаўняюць графы 41—48 пасялённага сьпіску. Асноваю для вядзеньня гэтых граф служаць другія экзэмпляры рэестру, якія перасылаюцца ў сельскія саветы раён. вык. камітэтамі (альбо рэестры паступленьняў, якія запаўняюцца сельскімі саветамі).

§ 12. Сумы прылічэньняў і зьніжэньняў с.-г. падатку, якія мелі месца ў кожным тэрміне, разьмяркоўваюцца прапарцыянальна падатку бягучага году па адпаведных тэрмінах. У адпаведнасьці з гэтым зьмяняецца раней паказаная па тэрмінах сума падатку, якая падлягае да выплаты:

а) пры зьніжэньні падатку, ад сумы паказанай першапачаткова па гэтаму тэрміну, вылічаецца зьнятая па гэтаму тэрміну сума падатку;

б) у выпадку прылічэньняў—дабаўляецца па належных тэрмінах належачая доля прылічанай сумы да сумы, падлягаючай выплаце ў даным тэрміне.

§ 13. Асноваю для адзнак аб складаньні служаць паведамленьні раён. вык. камітэту аб выніках разгледжаных падатковымі камісіямі хадайніцтваў і скарг.

*Увага.* Пасьля разьмеркаваньня плацяжоў па пасялённаму сьпіску ў дакумэнтах, па якіх зроблена гэтае разьмеркаваньне, робіцца адзнака: „занесена ў асабовы рахунак“.

§ 14. Пасьля сканчэньня тэрміну сума, якая асталася нявыплачанай, не пераносіцца на наступны тэрмін, а застаецца на рахунку данага тэрміну. Адзнакі аб выплаце застаўшайся па тэрміну нядоімкі вытвараюцца ў такім-жа парадку, як і да наступу тэрміну плацяжу.

§ 15. Для падліку выкананьня падатку па раёну раён. вык. камітэты вядуць асабовыя рахункі ўсіх сельскіх саветаў свайго раёну (ф. № 6), куды заносяцца ітогі ўсіх рэестраў, як па плацяжох, фактычна прынятых раён. вык. камітэтам, так і па прынятых іншымі раён. вык. камітэтамі, касамі Народнага Камісарыяту Фінансаў і сельскімі саветамі (па другіх экзэмплярах рэестраў).

§ 16. Падлік паступленьняў с.-г. падатку з гаспадарак, якія знаходзяцца ў граніцах гарадзкой мяжы і абкладаюцца с.-г. падаткам, вытвараецца раён. вык. камітэтамі, калі апошнія знаходзяцца ў межах гораду, і акр. фінансавымі адзеламі—у іншых выпадках.

§ 17. Для падліку выкананьня падатку па раёнах акругі, акруговыя фінансавыя аддзелы вядуць асабовыя рахункі ўсіх раёнаў акругі (прыстасавальна да ф. № 6).

§ 18. Адзнакі аб прылічэньнях і зьніжэньнях праводзяцца на аснове справаздачных даных раён. вык. камітэтаў.

§ 19. Для падліку выкананьня падатку па савецкіх гаспадарках раён. вык. камітэты вядуць асабовыя рахункі, прыстасавальна да ф. № 6.

## IV. Справаздачнасьць аб паступленьнях сельска-гаспадарчага падатку.

§ 20. Раён. вык. камітэты і касы Н. К. Фінансаў падаюць у акруговыя фінансавыя аддзелы сводкі паступленьняў падатку за мінулыя два тыдні, кожнага 16-га (за пэрыяд з 1-га па 15-га дня месяца ўключна) і кожнага 1-га дня месяца (за пэрыяд з 16-га па канец месяца).

*Увага.* Раён. вык. камітэты ў сваіх сводках паказваюць толькі фактычна прынятыя імі сумы, як непасрэдна, так і пераведзеныя ім праз паштова-тэлеграфныя ўстановы.

§ 21. Форма сводкі: „Сельгаспадатковая першую кастрычніка падатку 00, нядоімак 00, пені 00, усяго 00“.

*Увага 1.* „Першую кастрычніка“ значыць, што справаздачныя зьвесткі адносяцца да першай паловы кастрычніка месяца. Першай лічбай (падатку) паказваецца паступленьне падатку бягучай кампаніі грашыма і аблігацыямі (разам). Другой лічбай (нядоімак) паведамляецца паступленьне нядоімак мінулых гадоў грашыма і аблігацыямі (разам). Трэцяй лічбай (пені)—паступленьне пені на плацяжох бягучага году і нядоімкі мінулых гадоў грашыма і аблігацыямі (разам). Чацьвертай лічбай (усяго) паказваецца агульная сума паступленьняў грашыма і аблігацыямі (сума першых трох лічбаў).

*Увага 2.* Усе зьмяшчаемыя ў справаздачнай сводцы даныя паказваюцца за ўвесь час з пачатку кампаніі.

§ 22. Кожнага 18-га і 3-га дня месяца акруговыя фінансавыя аддзелы, на аснове двухтыднёвых сводак, якія атрыманы ад раён. вык. камітэтаў і кас Н. К. Фінансаў, пасылаюць у Н. К. Фінансаў сводную тэлеграму аб паступленьнях па акрузе па форме і за тэрміны, паказаныя ў §§ 20 і 21, г. з., 18-га за пэрыяд з 1-га па 15-га ўключна, а 3-га—за пэрыяд з 16-га па канец месяца.

§ 23. Паштовая справаздачнасьць раён. вык. камітэтаў і кас Н. К. Фінансаў перад акруговымі фінансавымі аддзеламі па паступленьні с.-г. падатку выяўляецца месячнымі справаздачнымі ведамасьцямі (ф. № 7), якія адсылаюцца ў акруговы фінансавы аддзел не пазьней 3-х дзён пасьля сканчэньня справаздачнага пэрыяду.

§ 24. Не пазьней 3-х дзён пасьля сканчэньня кожнага тэрміну плацяжу, устаноўленага для данага пасяленьня, сельскімі саветамі складаюцца ведамасьці (ф. № 8) аб выкананьні падатку па тэрмінах. Ведамасьці складаюцца ў 2-х экзэмплярах, з якіх адзін адсылаецца ў раён. вык. камітэт.

§ 25. На аснове ведамасьцяй сельскіх саветаў (па ф. № 8) раён. вык. камітэт складае і адсылае ў акруговы фін. аддзел агульную ведамасьць аб выкананьні падатку па тэрмінах. Акруговыя фінансавыя аддзелы падаюць у Народны Камісарыят Фінансаў сводныя даныя аб выкананьні падатку па тэрмінах (ф. № 8) на 20-га лістапада, 20-га студзеня і 20-га сакавіка.

## V. Справаздачнасьць па хадатайніцтвах і скаргах.

§ 26. Усе паступаючыя ў раён. вык. камітэт заявы і скаргі па с.-г. падатку запісваюцца ў кнігу „падліку хадайніцтваў і скарг“ (форма № 10).

*Увага.* У прыёме кожнай скаргі або хадайніцтва платніку выдаецца квіток.

§ 28. Падлік хадайніцтваў і скарг праводзіцца па наступных 9-ці асноўных катэгорыях:

1) хадайніцтвы ваенна-служачых;
2) „ перасяленцаў і расьсяленцаў;
3) „ незаможных гаспадарак;
4) „ па навальных няшчасьцях;
5) іншыя хадайніцтвы;
6) скаргі на няправільны падлік едакоў і крыніц прыбыткаў;
7) „ на няправільнае вызначэньне прыбыткаў ад неземляробчых заробкаў;
8) скаргі на няправільныя дзеяньні службовых асоб;
9) іншыя скаргі.

§ 28. Кожнай з адзначаных катэгорый хадайніцтваў і скарг адчыняецца асабовы рахунак (кніга ф. № 10).

§ 29. Хадайніцтвы і скаргі платнікаў заносяцца па рахунках кнігі ф. № 10 у залежнасьці ад зьместу хадайніцтва ці скаргі. Не пазьней 2-га дня кожнага месяца падводзяцца ітогі па ўсіх рахунках кнігі.

§ 30. Адначасова з падлікам усіх хадайніцтваў і скарг, якія пастпаюць на разгляд і вырашэньне раённай падатковай камісіі, у раён. вык. камітэтах праводзіцца падлік усіх скарг (ф. № 10), якія накіроўваюцца ў акруговую падатковую камісію (у парадку абскарджаньня рашэньняў раённай падатковай камісіі).

§ 31. Пастановы раённай падатковай камісіі па кожнай скарзе выкладаюцца каротка ў гр. 8-ай кнігі ф. № 10. Гэтыя пастановы падпісваюцца старшынёю і сакратаром камісіі.

§ 32. Пры абскарджаньні пастановы раённай падатковай камісіі скаргнік другі раз не запісваецца, а ў графе кнігі ф. № 10 адпаведна паказваецца лічнікам дата паданай у парадку абскарджаньня скаргі, а назоўнікам у той-жа графе паказваецца дата адсылкі скаргі на вырашэньне акруговай падатковай камісіі.

§ 33. Па скаргах і льготах устанаўляюцца 4 справаздачы (ф. № 9) ў працягу кампаніі: першая справаздача акруговага фінансавага аддзелу ў Народны Камісарыят Фінансаў на аснове справаздач раён. выкан. камітэтаў да 1-га кастрычніка 1927 г., 2-ая да 20-га лістапада, 3-яя справаздача—да 20-га студзеня 1928 г. і 4-эя да 1-га красавіка 1928 г.

*Увага.* Скаргнік паведамляецца аб пастанове Камісіі праз сельскі савет па агульных сьпісках раён. вык. камітэту ці спэцыяльным паведамленьнем.

## VI. Справаздачнасьць па льготах і зьніжэньнях.

§ 34. Раён. вык. камітэты вядуць падлік усіх льгот, якія дадзены платнікам у парадку дэкрэту аб адзіным сельска-гаспадарчым падатку і выданых у разьвіцьцё яго інструкцый і распараджэньняў. Льготы па падатку, якія даюцца платнікам падатку аўтаматычна без падачы заяў платнікам падатку, адзначаюцца ў пасялённым сьпіску. Ва ўвазе абавязкова паказваецца параграф і пункт інструкцыі, на аснове якіх дадзена льгота.

§ 35. Першая справаздача аб дадзеных льготах і зьніжэньнях у Народны Камісарыят Фінансаў падаецца на аснове адзнак у пасялённых сьпісках да 1-га кастрычніка. Наступныя справаздачы падаюцца ў тэрміны, паказаныя ў § 33, на аснове даных кнігі ф. № 10.

## VII. Справаздачнасьць аб мерах спагнаньня.

§ 36. Раён. вык. камітэты вядуць падлік ужываемых да платнікаў с.-г. падатку мер спагнаньня ў асобнай кнізе (ф. № 12).

*Увага.* Кніга падліку мер спагнаньня замяняе рэгістрацыю опісаў ва ўваходным журнале.

§ 37. На аснове даных кнігі падліку мер спагнаньня (ф. № 12) раён. вык. камітэты складаюць справаздачную ведамасьць аб руху мер спагнаньня па ф. № 11. Гэтая ведамасьць складаецца і адсылаецца ў акруг. фінансавы аддзел раён. вык. камітэтамі чатыры разы ў год: да 10-га лістапада, да 10-га студзеня, да 15-га сакавіка і да 1-га ліпеня).

§ 38. Акр. фін. аддзелы пасылаюць у Народны Камісарыят Фінансаў справаздачныя ведамасьці па ф. № 11—да 20-га лістапада, 20 студзеня, 1 сакавіка і 15 ліпеня.

## VIII. Справаздача аб выніках правядзеньня падатку.

§ 39. Не пазьней 15-га красавіка 1928 г. акруговыя фінансавыя аддзелы абавязаны падаць у Народны Камісарыят Фінансаў ведамасьць аб выніках правядзеньня адзінага сельска-гаспадарчага падатку ў 1927-1928 г. (ф. № 13).

§ 40. У ведамасьць па ф. № 13 заносяцца ітогавыя даныя на аснове даных асабовых рахункаў, справаздачных зьвестак аб льготах і зьніжэньнях і месячных справаздачных ведамасьцяй аб паступленьнях.

Начальнік Падатковага Кіраўніцтва
Народнага Камісарыяту Фінансаў БССР **М. Кардашэнка.**

---

ДАДАТАК 1-ы.
Форма № 4.

Сельскі савет.........................

## РЭЕСТР №....................

Паступленьняў сельска-гаспадарчага падатку 192...... г.

ПА ........................ *Раён. вык. камітэту. / Касе Н. К. Фінансаў. / Сельскаму савету.* ЗА ..............................

| №№ па чарзе | Прозьвішча, імя і імя па бацьку платніка | № акладнога ліста | ПАСТУПІЛА: Нядоімкі мінулых гадоў Р. | К. | Падатку бягучага году Р. | К. | Пені на плацяжы пад. бяг. году і няд. мін. гадоў Р. | К. | УСЯГО Р. | . | Залічана пераплат Р. | К. | УВАГА |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | | | |

ДАДАТАК 2-гі.

Форма № 5.

# КНІГА

паступленьняў сельска-гаспадарчага падатку па ..........

..........раёну..........акругі на 192. . . год.

| Месяц „..........“ і дзень | ПАСТУПІЛА: Нядоімкі мінулых гадоў | Падатку бягуч. году | Пені | УСЯГО | Звыш таго залічана пераплат у лік падатку | Зьвернут а пераплат падатку | УВАГА |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 |
| 1 | | | | | | | |
| 2 | | | | | | | |
| 3 | | | | | | | |
| 4 | | | | | | | |
| 5 | | | | | | | |
| 6 | | | | | | | |
| 7 | | | | | | | |
| 8 | | | | | | | |
| 9 | | | | | | | |
| 10 | | | | | | | |
| 11 | | | | | | | |
| 12 | | | | | | | |
| 13 | | | | | | | |
| 14 | | | | | | | |
| 15 | | | | | | | |
| 16 | | | | | | | |
| 17 | | | | | | | |
| 18 | | | | | | | |
| 19 | | | | | | | |
| 20 | | | | | | | |
| 21 | | | | | | | |
| 22 | | | | | | | |
| 23 | | | | | | | |
| 24 | | | | | | | |
| 25 | | | | | | | |
| 26 | | | | | | | |
| 27 | | | | | | | |
| 28 | | | | | | | |
| 29 | | | | | | | |
| 30 | | | | | | | |
| 31 | | | | | | | |
| Усяго за месяц . . . | | | | | | | |
| Усяго з пачатку году . . . | | | | | | | |

ДАДАТАК 3-ці.

Форма № 6.

Асабовы рахунак .................................. сельскага савету.

Прылічаецца: нядоімкі мінул. гадоў ...... падатку бягуч. году ...... Усяго ......

Да 1-га тэрміну ........ да 2-га тэрміну ........ да 3-га тэрміну ........

| Месяц і дзень | **Назва апярацый** (налічана і прылічана, паступіла, залічана, зьнята і астача) | № дакум. (рэестру, пратак.) | Нядоімкі мінулых гадоў | | Падатак бягучага году | | Пеня на плацяжы бягучага году і нядоімку | | УСЯГО | | УВАГА |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Руб. | К. | Руб. | К. | Руб. | К. | Руб. | К. | |
| | | | | | | | | | | | |

ДАДАТАК 4-ы.

Форма № 7.

Справаздачная ведамасьць

аб паступіўшых па .................. плацяжох с.-г. падатку 192 .... г.

| Лічыцца нявыплачаных нядомак мінулых гадоў. | ПАСТУПІЛА | | | | Звыш таго залічана пераплат | Зьвернута пераплат | З паступ. сум адлічана ў мясцовы бюджэт | УВАГА |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Нядоімкі мінулых гадоў | Падатку бягучага году | Пені | УСЯГО | | | | |
| | | | | | | | | |

ДАДАТАК 5-ы.
Форма № 8.

## Зьвесткі аб выкананьні сельска-гаспадарчага падатку
на ........................ 192 ..... г.
па ..................................................

| | Нядоімка мінулых гадоў | Падатак бягучага году | | | УВАГА |
|---|---|---|---|---|---|
| | | I тэрмін | II тэрмін | III тэрмін | |
| ПРЫЛІЧАЕЦЦА: | | | | | |
| Лік платнікаў, якія ўнесьлі плацеж: часткова . | | | | | |
| поўнасьцю . | | | | | |
| Сума ўнесеных плацяжоў . | | | | | |
| Лік платнікаў, якія ня ўнесьлі плацеж (да дадзенага тэрміну) . . . | | | | | |
| Сума нядоімкі . . | | | | | |

ДАДАТАК 6-ы.
Форма № 9.

## Справаздачная ведамасьць аб хадайніцтвах, скаргах, льготах і зьніжэньнях

| | Лік хадайніцтваў і скарг | | | Дана льгот і скідак | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | Сума зьніжэньня | | | |
| | | | | | Падатку бягучага году | | Нядоімкі мінулых гадоў | |
| | Паступіла | Разгледжана | Здаволена | Лік гаспадарак | руб. | к. | руб. | к. |
| Дадзена льгот аўтаматычна (без падачы хадайніцтва) | | | | | | | | |
| Хадайніцтвы аб льгот.: Ваеннаслужачым і інвалідам . . | | | | | | | | |
| Перасяленцам і расьсяленцам . . | | | | | | | | |
| Незаможным гаспадаркам . . . | | | | | | | | |
| Па навальных няшчасьцях | | | | | | | | |
| Іншыя . . . | | | | | | | | |
| Скаргі: На няправільны падлік крыніц прыбытку і едакоў . . | | | | | | | | |
| На няправільнае вызначэньне прыбытку ад неземляробчых заробкаў . | | | | | | | | |
| На няправільныя дзеяньні службовых асоб . . | | | | | | | | |
| Іншыя . . . | | | | | | | | |
| УСЯГО . . | | | | | | | | |

ДАДАТАК 7-ы.

Форма № 10.

# Кніга падліку хадайніцтваў і скарг

| №№ па чарзе | Час паступленьня хадайніцтва або скаргі | Назва пасяленьня | № акладнога ліста | Прозьвішча, імя і імя па бацьку скаргніка | Дата разгляду хадайніцтва або скаргі | Пастанова раённай падатковай камісіі | | Дата накіраваньня скаргі ў акр. падатк. камісію | Дата атрыманьня пастановы акр. падатк. камісіі | Пастанова акруговай падатковай камісіі | Дадаткова зьнятая сума | УВАГА |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | Сума зьнятага падатку | Кароткі зьмест пастановы і подпісы сяброў камісіі (або старшыні і сакратара) | | | | | |
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 |
| | | | | | | | | | | | | |

ДАДАТАК 9-ы.

Форма № 12.

# Кніга падліку мер спагнаньня па с.-г. падатку 192... г.

| №№ па чарзе | Прозьвішча, імя і імя па бацьку | № па пасялённаму сьпіску | Адзнака аб опісу маемасьці | | Пастанова раён. выкан. камітэту | Адзнака аб продажу маемасьці | | Адзнака аб адданьні пад суд | | | УВАГА |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | № опісу | На якую суму | | № квіту | Сума | Дата накірав. справы | Дата разгляду справы | Пастанова суду | |
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
| | | | | | | | | | | | |

ДАДАТАК 8-ы

Форма № 11.

## Справаздача аб мерах спагнаньня.

### Меры спагнаньня ў адносінах да платнікаў.

| ВІДЫ СПАГНАНЬНЯЎ | | Лік платнікаў прыцягнутых да спагнаньня | УВАГА |
|---|---|---|---|
| Опіс і продаж маемасьці | Зроблена опісаў | | |
| | Зроблена продажаў | | |
| Судовыя спагнаньні | Аддана пад суд | | |
| | Асуджана | | |
| | Апраўдана | | |

### Меры пакараньня ў адносінах да службовых асоб

| Віды пакараньняў | Лік выпадкаў | УВАГА |
|---|---|---|
| Выгавары, ганьбы і інш. | | |
| Звальненьне з пасады | | |
| Аддарьне пад суд | | |

*(Подпісы)*

ДАДАТАК 10-ы.
Форма № 13.

# ВЕДАМАСЬЦЬ

аб выніках правядзеньня сельска-гаспадарчага падатку 192 .... г.

па ..................................................................................

| | Падатак бягучага году | Недоімкі мінулых гадоў | Пені | Усяго | УВАГА |
|---|---|---|---|---|---|
| Першапачаткова налічана | | | | | |
| Прылічана . . | | | | | |
| Усяго належала да выплаты . . | | | | | |
| Паступіла | | | | | |
| Залічана пераплат . | | | | | |
| Зьнята . . . . | | | | | |
| Усяго выканана . . | | | | | |
| Застаецца ў нядоімцы . . | | | | | |

Узгоднена з Інстытутам Беларускай Культуры і Беларускім Навукова-Дасьледчым Інстытутам Сельскай і Лясной Гаспадаркі імя Ў. І. Леніна.

## 4. Інструкцыя Народных Камісарыятаў Фінансаў, Народнага Камісарыяту Асьветы і Народнага Камісарыяту Земляробства БССР

АБ ПАРАДКУ ЎЖЫВАНЬНЯ ПАСТАНОВЫ САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ БССР ЗА 21 САКАВІКА 1927 Г. „АБ МАЕМАСНЫХ ПРАВОХ НАВУЧАЛЬНЫХ, НАВУЧАЛЬНА-ПАКАЗАЛЬНЫХ І НАВУКОВА-ДАСЬЛЕДЧЫХ УСТАНОЎ БССР, ЯКІЯ ЗНАХОДЗЯЦЦА НА ДЗЯРЖАЎНЫМ І МЯСЦОВЫМ БЮДЖЭТАХ І МАЮЦЬ ЗЯМЕЛЬНЫЯ ГАСПАДАРКІ І ПРАДПРЫЕМСТВЫ НА СПЭЦЫЯЛЬНЫХ СРОДКАХ".

На падставе арт. 3-га і ўвагі да арт. 1-га пастановы СНК БССР за 21-га сакавіка 1927 г.(З. З. БССР 1927 г. № 15, арт. 57) „Аб маемасных правох навучальных, навучальна-паказальных і навукова-дасьледчых установ БССР, якія знаходзяцца на дзяржаўным і мясцовым бюджэтах і маюць зямельныя гаспадаркі і прадпрыемствы на спэцыяльных сродках" (пратакол СНК БССР № 96, п. 1780) Народныя Камісарыяты Фінансаў, Асьветы і Земляробства БССР, ўстанаўляюць наступныя правілы і парадак карыстаньня маемаснымі правамі:

1. Прадпрыемствы і гаспадаркі, якія не пераведзены на гаспадарчы разрахунак, пералічаныя ў далучаным да гэтага сьпісе, як гаспадаркі і прадпрыемствы, складаючыя спэц. сродкі ўстаноў, маюць права крэдытавацца ў крэдытных установах і абавязвацца вэксалямі, браць заказы і рабіць іншыя патрэбныя ўмовы, а таксама ўваходзіць членамі ў арганізацыі і аб'яднаньні, якія ўтвараюцца для агра-культурных палепшаньняў і тэхнічнага ўдасканаленьня і ня маюць на мэце беспасрэднае камэрцыйнае карысьці.

2. Усе вэксалі, абавязацельствы, умовы і іншыя дакумэнты маемаснага характару ад імя пэралічаных у далучаным да гэтай інструкцыі сьпісе ўстаноў, зацьвярджаюцца подпісам кіраўнікоў устаноў, без чаго яны несапраўдны.

3. Разьмер абавязацельстваў, прымаемых на сябе ўстановамі, пералічанымі ў далучаным сьпісе, а таксама прадстаўляемага гэтым установам крэдыту, ня можа перавышаць 50 проц. агульнай сумы асноўнага і зваротнага капіталаў данага прадпрыемства ці гаспадаркі.

*Увага.* Тая частка маемасьці, якая аднесена да асноўнага капіталу, але ў сілу існуючых законаў (арт. 22 Гр. Кодэксу з увагамі да яго) вылучана з грамадзянскага звароту, а таксама маемасьць, набытая на бюджэтныя сродкі, ня можа быць адчужаема і закладаема ўстановай, у веданьні якой яна знаходзіцца.

4. Для ўстанаўленьня пачынальнага балянсу, па распараджэньні загадчыка ўстановы, у падпарадкаваньні якой знаходзіцца гаспадарка або прадпрыемства, складаецца спэцыяльная камісія для ўтварэньня інвэнтарызацыі гэтай гаспадаркі або прадпрыемства. Камісія складае сьпіс знойдзеных у наяўнасьці як грашовых, так і матар'яльных каштоўнасьцяй, а таксама выяўляе даўгі прадпрыемства, альбо канстатаваныя выдаткі да моманту інвэнтарызацыі. Выяўленыя гэтай камісіяй даныя служаць матар'ялам да складаньня пачынальнага балянсу, пры чым:

а) тая частка маемасьці, якая ня зьнішчаецца цалкам у працэсе вытворчасьці, як напрыклад: будынкі, абсталяваньне, інструмэнты, жывы і мёртвы інвэнтар і г. д., залічваецца, як асноўны капітал;

б) усё іншае, як грошы, апал, сырызна, розныя матар'ялы і г. д., падлягае залічэньню ў зваротны капітал.

*Увага 1.* Зямля, яе нетры, воды і лясы ў склад капіталу ня ўключаюцца і па балянсу не праводзяцца, але паказваецца асобным пазабалянсавым артыкулам колькасьць гэктараў зямлі, лесу і вадазбораў, якімі прадпрыемства або гаспадарка карыстаецца.

*Увага 2.* Інвэнтарызацыя маемасьці або прадпрыемстваў, знаходзячыхся пры ўстановах, утрымоўваемых па мясцоваму бюджэту, праводзіцца на агульных падставах інструкцыі аб інвэнтарызацыі маемасьці мясцовых саветаў, зацьверджанай Народным Камісарыятам Фінансаў 16 лютага 1926 году, а пры ўстановах, знаходзячыхся на ўтрыманьчі дзярж. бюджэту—на падставе гэтай-жа інструкцыі, але камісія складаецца з наступных трох прадстаўнікоў: старшыня камісіі—загадчык установы і сябры: прадстаўнік ад рахунковай часьці ўстановы і прадстаўнік ад акр. фін. аддзелу.

*Увага 3.* Для нанова арганізуемых прадпрыемстваў і гаспадарак пры ўстановах інвэнтарны опіс складаецца з ацэнкай маемасьці па яе фактычнай каштоўнасьці: разьмеркаваньне на асноўны і зваротны капітал робіцца ў адпаведнасьці, паводле ўказаньняў артыкулу 4, п. п. „а“ і „б“.

5. Поўная адказнасьць за правільнае выкананьне гэтай інструкцыі і мэтазгоднасьць выкарыстаньня сродкаў ускладаецца пэрсанальна на кіраўнікоў пералічаных у сьпісе ўстаноў, якія адказны перад дзяржавай, як за даверанаю ім маемасьць, так і за гаспадарчае вядзеньне справы ў адпаведнасьці з існуючымі законамі.

6. Спагнаньні па абавязацельствах устаноў, пералічаных у далучаемым сьпісе, выданым на падставе вышэйазначанай пастановы СНК, могуць быць накіраваны толькі на даходы ад іх прадпрыемстваў або гаспадарак, а таксама і на маемасьць гэтых прадпрыемстваў і гаспадарак, пры ўмове захоўваньня наступных правіл:

а) на маемасьць, якая адносіцца па роду свайму, паводле арт. 4 п. „б“, да зваротнага капіталу, спагнаньні накіроўваюцца такім-жа парадкам, як і на маемасьць прыватных асоб;

б) на маемасьць, аднесеную, паводле арт. 4, п. „а“, да асноўнага капіталу, спагнаньне можа быць накіравана толькі з захоўваньнем арт. 22 і ўвагі да яго Грам. Кодэксу, а таксама і другой часткі да арт. 3 гэтай інструкцыі.

7. Дзяржаўны скарб і вышэйшыя ўстановы па ведамственнай лініі па абавязацельствах устаноў, пералічаных у далучаным да гэтага сьпісе, не адказваюць.

8. Падлік матар'яльных і грашовых каштоўнасьцяй па прадпрыемствах і гаспадарках вядзецца асобна ад падліку сродкаў, якія адпушчаны па дзяржаўнаму і мясцоваму бюджэтах на ўтрыманьне ўстаноў, пры якіх знаходзяцца гэтыя прадпрыемствы і гаспадаркі.

9. Інвэнтарны опіс павінен весьціся акуратна, г. зн. у ім павінна своечасова запісвацца ўся набываемая і выключацца ўся выбываемая маемасьць прадпрыемстваў або гаспадарак, навучальных, навуковых і навукова-дасьледчых устаноў.

10. Гаспадарка або прадпрыемства складае свой вытворчы плян на бягучы год і фінансавы каштарыс, якія прадстаўляюцца на разгляд тых устаноў, пры якіх яны знаходзяцца, а апошнія з сваім заключэньнем прадстаўляюць іх у адпаведныя нар. камісарыяты, якія па ўзгадненьні з Н. К. Фінансаў або з акр. вык. камітэтам, у залежнасьці ад бюджэту, на якім установы ўтрымоўваюцца, зацьвярджаюць вытворчыя пляны і фінансавыя каштарысы.

11. Рэвізія дакумэнтаў па прыбытках і выдатках грашовых і матар'яльных каштоўнасьцяй ажыцьцяўляецца органамі фінансавага кантролю ў адпаведнасьці з правіламі па рэвізіі ўстаноў, існуючых на дзяржаўным і мясцовым бюджэтах. Апроч таго, рэвізія як дакумэнтальная, так і фактычная можа рабіцца прадстаўнікамі тых ведамстваў, у падпарадкаваньні якіх гэтыя ўстановы знаходзяцца.

12. Рахункаводзтва і справаздачнасьць прадпрыемстваў і гаспадарак, якія існуюць пры дзяржаўных установах па прынцыпу гаспадарчага разрахунку, вядзецца асобна ад рахункаводзтва па дзяржаўнаму і мясцоваму бюджэтах—па сыстэме падвойнай бухгальтэрыі, з штомесячным сканчэньнем дапаможных кніг і складаньнем гадавой справаздачы.

13. Гаспадаркі і прадпрыемствы складаюць гадавую справаздачу і заключны балянс, якія, не пазьней як праз тры месяцы пасьля

скончэньня гаспадарчага году, падаюцца ў адпаведны Народны Камісарыят або ўстанову, апошнія, па ўзгадненьні з Н. К. Фінансаў, іх зацьвярджаюць.

14. Выяўленае па заключанаму балянсу сальдо паступае ў спэц-сродкі тэй установы, пры якой прадпрыемства або гаспадарка знаходзіцца, а страты (дэфіцыт) пакрываюцца за кошт зваротнага капіталу.

Нам. Народнага Камісара Фінансаў БССР **В. Мікуліч**.

Нам. Народнага Камісара Асьветы БССР **П. Валасевіч**.

Нам. Народнага Камісара Земляробства БССР **Я. Валодзька**.

---

ДАДАТАК.

Узгоднена з Народным Камісарыятам Фінансаў БССР.

# СЬПІС

## прадпрыемстваў і гаспадарак навучальных установ, падпарадкаваных Народнаму Камісарыяту Асьветы, якім надаецца права крэдытавацца ў крэдытных установах і абавязвацца вэксалямі, браць заказы і рабіць іншыя патрэбныя ўмовы, а таксама ўваходзіць членамі ў арганізацыі і аб'яднаньні, якія ўтвараюцца для агра-культурных палепшаньняў і тэхнічнага ўдасканаленьня і ня маюць на мэце беспасрэднай камэрцыйнай карысьці.

(Выдаецца на падставе ўвагі да арт. 1 пастановы Савету Народных Камісараў БССР за 21 сакавіка 1927 г. „Аб маемасных правох навучальных, навучальна-паказальных і навукова-дасьледчых установ БССР, якія знаходзяцца на дзяржаўным і мясцовым бюджэтах і маюць зямельныя гаспадаркі і прадпрыемствы на спэцыяльных сродках).

1. Пры Беларускай Дзяржаўнай Сельска-Гаспадарчай Акадэміі, імя Кастрычнікавай Рэвалюцыі:

а) навучальная фэрма;
б) гаспадарка Дрыбіна;
в) „ Іванава.

2. Гаспадарка пры Віцебскім Дзяржаўным Вэтэрынарным Інстытуце.

3. Фэрма Дарэва пры Менскім Дзяржаўным Пэдагагічным Тэхнікуме.

4. Фэрма пры Рагачоўскім Дзяржаўным Пэдагагічным Тэхнікуме.

5. Фэрма пры Барысаўскім Дзяржаўным Пэдагагічным Тэхнікуме.

6. Фэрма пры Полацкім Дзяржаўным Пэдагагічным Тэхнікуме.

7. Фэрма пры Марына-Горскім Дзяржаўным Садова-Гародным Тэхнікуме.

8. Фэрма пры Варанецкім Дзяржаўным Сельска-Гаспадарчым Тэхнікуме.

9. Фэрма пры Красна-Бярэскім Дзяржаўным Агра-Тэхнікуме.

10. Прадпрыемствы пры Полацкім Дзяржаўным Лясным Тэхнікуме.

11. Майстэрні пры Віцебскім Дзяржаўным Мастацкім Тэхнікуме.

12. Майстэрні пры Менскім Дзяржаўным Архітэктурна-Дарожна-Будаўнічым Тэхнікуме.

13. Майстэрні і прадпрыемствы пры Віцебскім Дзяржаўным Электра-Мэханічным Тэхнікуме.

14. Майстэрні і прадпрыемствы пры Інстытуце Сацыяльнага Перавыхаваньня ў Крынках Менскай акругі.

15. Фэрма пры Яўрэйскай Школе Сялянскай Моладзі ў Курасоўшчыне Менскай акругі.

16. Фэрмы пры школах Сялянскай Моладзі:

а) Лужасьнянскай—Віцебскай акругі,
б) Казіміраўскай—Менскай акругі,
в) Вільшчынскай—Менскай акругі,
г) Парыцкай—Бабруйскай акругі,
д) Бялыніцкай—Магілеўскай акругі,
е) Княжыцкай—Магілеўскай акругі,
ж) Слуцкай—Менскай акругі,
з) Санюкоўскай—Мазырскай акругі,
і) Халоблінскай—Магілеўскай акругі,
к) Рацэўскай—Аршанскай акругі,
л) Ярэмінскай—Гомельскай акругі,
м) Суткоўскай—Рэчыцкай акругі,
н) Обальскай—Полацкай акругі,

17. Майстэрні пры Менскай Аб'яднанай Праф. тэх. школе.

18. Фэрма пры Смалянскай Сельска-Гаспадарчай Школе Аршанскай акругі.

19. Фэрма пры Каніцкай Сельска-Гаспадарчай Школе Магілеўскай акругі.

20. Фэрма пры Беліцкай Сельска-Гаспадарчай Школе Віцебскай акругі.

21. Фэрма пры Рэчкаўскай Сельска-Гаспадарчай Школе Гомельскай акругі.

*Увага.* Паводле заключэньня Народнага Камісарыяту Фінансаў БССР пытаньне аб крэдытаваньні школ сялянскай моладзі трэба ўзгадняць з тымі акруговымі выканаўчымі камітэтамі, дзе школы гэтыя знаходзяцца.

Нам. Народнага Камісара Асьветы БССР **П. Валасевіч.**

Сакратар Н. К. Асьветы БССР **Ю. Савіч.**

## 5. Абежнік Народнага Камісарыяту Асьветы БССР

АБ УЗІМАНЬНІ АЎТАРСКАГА ГАНАРАРУ ЗА ПУБЛІЧНАЕ ДЭМАНСТРАВАНЬНЕ КІНО-КАРЦІН І ПАРАДКУ СПАГНАНЬНЯ АЎТАРСКАГА ГАНАРАРУ З ТЭАТРАЎ, КІНО-ТЭАТРАЎ І ІНШЫХ ВІДОВІШЧ.

*Аддзелам Народнай Асьветы, Белдзяржкіно, тэатрам і кінематографам.*

У адпаведнасьці з арт. арт. 2 і 5 пастановы ЦВК і СНК СССР за 30 студзеня 1925 г. „Аб асновах аўтарскага права“ (З. З. СССР 1925 г. № 7, арт. 67) і ў дадатак да абежніку свайго за 10 лютага 1926 г. № 19, Народны Камісарыят Асьветы БССР прапануе:

Аўтарскі ганарар вылічаць у наступным разьмеры:

1. За публічнае дэманстраваньне кіно-карцін (дэманстрацыя кіно-карцін і музыка, неспэцыяльна напісаная, да пэўнай карціны) 1 проц. з сумы збору кожнага сэансу.

*Увага.* Азначаная стаўка (1 проц.) адносіцца да ўсіх элемэнтаў кіно-сцэнарнай творчасьці і дзеліцца паміж аўтарамі наступным парадкам: за сюжэт, лібрэто, распрацоўку сцэнарыя і мантажны ліст і за рознаборную, неспэцыяльна напісаную да пэўнай кіно-карціны, музыку па $^1/_4$ проц. кожнаму аўтару.

2. За музыку, спэцыяльна напісаную да дэманстраваньня кіно-карцін —$^1/_2$ проц.

3. Аўтарскі ганарар вылічаецца з сумы фактычнага збору (валавой выручкі) ад продажу білетаў за вылікам з яе сумы дзяржаўнага падатку і пабілетнага збору на карысьць Чырвонага Крыжу.

4. Узіманьне аўтарскага ганарару паводле гэтага абежніку ўстанавіць з 1-га чэрвеня 1927 г.

5. Аўтарскі ганарар уносіцца тэатральнай або іншай касай агэнту Беларускага Таварыства Драматычных Пісьменьнікаў і Кампазытараў не пазьней 7-і дзён пасьля спэктаклю або іншай пастаноўкі.

6. Арт. арт. 8 і 9 абежніку Народнага Камісарыяту Асьветы за 10-га лютага 1926 г. № 19 „Аб узіманьні аўтарскага ганарару за публічнае выкананьне розных твораў літаратуры і мастацтва“ касуюцца.

Народны Камісар Асьветы БССР **А. Баліцкі.**

Сакратар Народнага Камісарыяту
Асьветы БССР **Ю. Савіч.**

2 чэрвеня 1927 г.
№ 17.

## 6. Пастанова Народнага Камісарыяту Асьветы БССР

АБ УКЛЮЧЭНЬНІ ВЫШЭЙШЫХ КУРСАЎ БЕЛАРУСАЗНАЎСТВА І 2-Х ГАДОВЫХ ПЭДАГАГІЧНЫХ КУРСАЎ У СЬПІС НАВУЧАЛЬНЫХ УСТАНОЎ, ПАСЬЛЯ СКАНЧЭНЬНЯ ЯКІХ МУЖЧЫНЫ ПАВІННЫ АДБЫВАЦЬ ВАЙСКОВУЮ СЛУЖБУ Ў ПАРАДКУ РАЗЬДЗЕЛУ XIII „ЗАКОНУ АБ ВАЙСКОВАЙ СЛУЖБЕ“.

У дадатак да пастановы сваёй № 94 за 2 чэрвеня 1927 году і на падставе адносьніку Галоўнай Управы Р. К. К. А. за 8 ліпеня 1927 году № 97703, Народны Камісарыят Асьветы БССР пастанаўляе:

Уключыць Вышэйшыя Курсы Беларусазнаўства і 2-х гадовыя пэдагагічныя курсы ў сьпіс навучальных установ, пасьля сканчэньня якіх мужчыны павінны адбываць вайсковую службу ў парадку разьдзелу XIII „Закону аб вайсковай службе“, аб чым павінна рабіцца адзнака на атэстатах і пасьведчаньнях.

Нам. Народнага Камісара
Асьветы БССР **П. Валасевіч.**

Сакратар Народнага
Камісарыяту Асьветы БССР **Ю. Савіч.**

12 жніўня 1927 г.
№ 122.

---

## 7. Абежнік Народнага Камісарыяту Асьветы БССР

АБ ДАПАМОЗЕ ПРАЦАЎНІКОМ СУВЯЗІ, ЯКІЯ ЗВАРОЧВАЮЦЦА ВА ЎСТАНОВЫ НАРОДНАЙ АСЬВЕТЫ ЗА СПРАЎКАМІ.

*Усім акруговым інспэктарыятам народнай асьветы і культурна-асьветным установам, непасрэдна падпарадкаваным Народнаму Камісарыяту Асьветы БССР.*

Народны Камісарыят Пошт і Тэлеграфу СССР, у мэтах дачы магчымасьці насельніцтву хутка атрымоўваць неабходныя спраўкі па тэлефону і тэлеграфу, устанавіў асобны від услуг па прыёму і выкананьню тэлефонна-тэлеграфных даручэньняў.

Для селяніна і рабочага такія ўслугі маюць вялікае значэньне, бо замест паездкі ў горад ці іншае месца за атрыманьнем неабходных справак, зацікаўленая асоба можа хутка атрымаць апошнія праз мясцовую тэлефонную або тэлеграфную ўстанову.

Як відаць з адносіны Ўпаўнаважанага Народнага Камісарыяту Пошт і Тэлеграфу СССР пры Урадзе БССР за 7 ліпеня г. г. № 5131, некаторыя ўстановы зусім адмаўляюць у выдачы справак, а некаторыя затрымліваюць выдачу апошніх.

Дзякуючы гэтаму, зацікаўленым у справках асобам паштова-тэлеграфныя ўстановы даюць нездавальняючыя іх адказы, або зусім адмаўляюць у выкананьні даручэньняў па вышэй-паказанай прычыне, што бязумоўна падрывае давер'е насельніцтва к даручэньням.

На падставе гэтага Народны Камісарыят Асьветы прапануе ўсім падпарадкаваным яму ўстановам дакладна і, як мага хутчэй, даваць спраўкі і весткі, за якімі будуць зварочвацца працаўнікі сувязі ў парадку выкананьня даручэньняў.

Нам. Народнага Камісара
Асьветы БССР **П. Валасевіч.**

Сакратар Народнага Камісарыяту
Асьветы БССР **Ю. Савіч.**

17 жніўня 1927 г.
№ 20.

---

## 8. Абежнік Народнага Камісарыяту Асьветы БССР

АБ ПАРАДКУ ВЫДАЧЫ ПАСЬВЕДЧАНЬНЯЎ ПА ЛЬГОТНАМУ ТАРЫФУ № 45.

*Усім акруговым інспэктарыятам народнай асьветы і культурна-асьветным установам БССР.*

На практыцы сустракаюцца выпадкі выдачы культурна-асьветнымі ўстановамі пасьведчаньняў па льготнаму тарыфу № 45 (для экскурсій, навуковых камандыровак, экпэдыцый) без запаўненьня тэкстам некаторых адрэзкаў гэтых пасьведчаньняў і выдачы на рукі карашкоў апошніх, што зьяўляецца незаконным.

Каб пазбавіцца гэтага ў будучым, Народны Камісарыят Асьветы прапануе:

1. Не выдаваць на рукі пасьведчаньняў (льготны тарыф № 45) з незапоўненымі тэкстам адрэзкамі, тыя-ж адрэзкі, якія застаюцца незапоўненымі павінны быць перакрэсьлены крыж-на-крыж.
2. Не выдаваць на рукі карашкі пасьведчаньняў, а пакідаць іх ва ўстанове для падліку.

Адказнасьць за невыкананьне гэтага будзе несьці тая асоба, якая падпісвае пасьведчаньне.

Нам. Народнага Камісара
Асьветы БССР **П. Валасевіч.**

Сакратар Народнага Камісарыяту
Асьветы БССР **Ю. Савіч.**

17 жніўня 1927 г.
№ 21.

---

## 9. Пастанова Народнага Камісарыяту Асьветы БССР

АБ ЗАЦЬВЕРДЖАНЬНІ ЎЗОРАЎ ВЕДАМАСЬЦЯЙ, КАТАЛЁГАЎ, КНІГ І ІНШ. ДЛЯ ДАШКОЛЬНЫХ УСТАНОЎ.

Народны Камісарыят Асьветы БССР пастанаўляе:

Зацьвердзіць пералічаныя ніжэй, далучаныя да гэтага ўзоры ведамасьцяй, каталёгаў, кніг і інш., якія паводле Палажэньня аб

дашкольных установах БССР *) павінны весьціся ў гэтых установах:

1. Сьпіс дзяцей, якія прыняты ў дашкольную ўстанову.
2. Ведамасьць аб прысутнасьці дзяцей на занятках.
3. Сьпіс інвэнтарнай маемасьці ўстановы.
4. Рахунак сум.
5. Сыстэматычны каталёг бібліатэкі.
6. Кніга пратаколаў рады ўстановы.
7. Штодзённы падлік групавай працы ўстановы.
8. Абавязацельства аб адчыненьні дзіцячага саду грамадзкімі, савецкімі і іншымі арганізацыямі і ўстановамі.

Нам. Народнага Камісара Асьветы БССР **П. Валасевіч.**

Сакратар Народнага Камісарыяту
Асьветы БССР **Ю. Савіч.**

24 жніўня 1927 г.
№ 125.

---

ДАДАТАК 1-ы.

Узор № 1.

## СЬПІС ДЗЯЦЕЙ

якія прыняты ў .......................... ў 192...... нав. годзе.
(Назва ўстановы)

| №№ па чарзе. | Прозьвішча і імя | Узрост (год нараджэньня) | П о л | Нацыянальнасьць і родная (матчына) мова | Мёсца жыцьця бацькоў ці асоб, што іх замяняюць | Адлегласьць месца жыцьця ад дзіц. саду | У якую групу прынят | Якога здароўя паступаючы, ці ня мае якіх фізычных недахопаў, на якія хваробы хварэў | Сямейны стан (ёсьць бацькі ці сірата) | Сацыяльны стан бацькоў (рабочы, селянін, саматужнік, служачы, гандляр і інш.) | Матар'яльны стан бацькоў (беднякі, сераднякі, заможныя), месячны аклад па службе або на працы | Якія дакумэнты пададзены пры паступленьні ў дзіцяч. сад | Адзнака аб часе прыёму ў дзіц. сад. | У В А Г А |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | | | | |

*) Палажэньне аб дашкольных установах БССР, прынятае ЦВК і СНК БССР 2 ліпеня 1927 г., надрукавана ў газ. „Савецкая Беларусь“ за 13 жніўня 1927 г. №182 і ў „Збору Законаў і Загадаў БССР“ № 30, 1927 г.

ДАДАТАК 2-і

Узор № 2.

# Ведамасьць

аб прысутнасьці дзяцей на занятках за .................... 192.... г.

| №№ | Прозьвішча і імя дзіцяці | МЕСЯЦ ........ | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | Колькі дзён прапусьціў | Пераважныя прычыны пропускаў | УВАГА |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 | 31 | | | |
| | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |

УВАГА. Адсутнасьць дзяцей адзначаецца наступнымі літарамі, х—хвароба, п—пошасная хвароба (эпідэмія), ад—адсутнасьць адзеньня, др.—дрэнная пагода, пр.—праца па гаспадарцы, р.—рэлігійныя сьвяты нп—няўважныя прычыны.

ДАДАТАК 3-і.

Узор № 3.

# СЬПІС

інвэнтарнай маемасьці ..................................................
(Назва ўстановы)

| №№ па чарзе | Дата набыцьця прадметаў | Назва прадметаў з падрабязным іх апісаньнем (матар'ял, якасьць, велічыня і інш.) | Колькасьць | Кошт паасобнай рэчы | | Агульная сума | | Адзнакі аб прыбытков. дакумэнт. | Адзнакі аб выключэньні і па якіх дакумэнтах | УВАГА |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | руб. | к. | руб. | к. | | | |
| | | | | | | | | | | |

ДАДАТАК 4-ы.

Узор № 4.

Рахунак сум ..................................................
(Назва ўстановы)

ПРЫБЫТАК. ВЫДАТАК.

| №№ па чарзе | Час запісу | Прыбытковы дакумэнт, назва, № | Ад каго і за што атрыманы грошы | Сума па дакумэнту | №№ па чарзе | Час запісу | Выдатковы дакумэнт, назва, № | Каму і за што выданы грошы | Сума па дакумэнту | УВАГА |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | |

ДАДАТАК 5-ы.

Узор № 5.

## Сыстэматычны каталёг

Бібліатэкі ____________________

(Назва ўстановы)

Аддзел ....................

| №№ па чарзе | №№ храналёгіч. каталёгу | Поўная назва кніжак | | Лік экз. | Лік кніг і томаў | Кошт 1 экзэм. | | Кошт усіх экзэм. | | Шыфр кнігі (шафа, полка, места) | Адзнакі аб выключэньні | УВАГА |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Аўтар | Назва кнігі, год і месяц выданьня. Назва выдавецтва. | | | Р. | К. | Р. | К. | | | |
| | | | | | | | | | | | | |

ДАДАТАК 6-ы

Узор № 6.

КНІГА

Пратаколаў .................... раёну

(Назва ўстановы)

Пачата .................... 192...... г.

Скончана .................... 192...... г.

Узор пратаколу.

ПРАТАКОЛ № ..........

Пасяджэньня Рады ....................

(Назва ўстановы)

якое адбылося „..........“ .................... 192...... г.

ПРЫСУТНІЧАЛІ: ....................

....................

....................

**Старшыня** ....................

**Сакратар** ....................

Пасяджэньне пачалося а .......... гадз. .......... мін.

Скончылася а .......... гадз. .......... мін.

*(Працяг на наступнай старонцы).*

| §§ | Слухалі: | Пастанавілі: | Адзнакі аб выкананьні. |
|---|---|---|---|
| | (Кароткі зьмест пытаньняў і спрэчак). | | |

УВАГА 1. Рады лічацца правадзейнымі, калі ёсьць ня менш паловы членаў рады з пасганоўчым голасам.

УВАГА 2. Пратакол падпісваецца ўсімі прысутнымі членамі Рады не пазьней наступнага пасяджэньня.

ДАДАТАК 7-ы.

Узор № 7.

Штодзённы падлік групавае працы ..................................
(Назва ўстановы)

| Месяц і дзень | Лік дзяцей | Заданьні дню | | Зьмест працы ў яе паступовасьці | Што праведзена па заданьнях | Перашкоды ў працы | УВАГА |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | па пляну | бяз пляну | | | | |
| | | | | | | | |

ДАДАТОК 8-ы.

Узор № 8.

## АБАВЯЗАЦЕЛЬСТВА.

192 .... году .................................. месяца .................................. дню ..........

.................................. ў асобе свайго прадстаўніка
(Прэфэсіян. Саюз, ЖАКТ, Капяратыў, (Сельскі Савет і інш.)

.................................. які прад'явіў адпаведнае паўнамоцтва
(прозьвішча, імя і імя па бацьку)

за „ “ .................................. 192 ....... г. № .................. выдаў ..........

.................................. Акруговаму Інспэктару Народнай Асьветы абавязацельства ў тым, што адчыняемы ў ..................................
(паказаць кім, дзе)

з дазволу Акруговага Інспэктара Народнай Асьветы дзіцячы сад (або ачаг) будзе арганізаваны ў адпаведнасьці з вымаганьнямі „Палажэньня аб дашкольных установах“ (З. З. БССР 1927 г., № 30, арт. 144) і ў сваёй дзейнасьці будзе кіравацца дырэктывамі Народнага Камісарыяту Асьветы і яго органаў.

Адчыняемая дашкольная ўстанова ўваходзіць у агульную сетку ўстаноў акругі і знаходзіцца пад непасрэдным кантролем і кіраўніцтвам Акруговага Інспэктара Народнай Асьветы.

Пэдагагічны пэрсанал, які назначаецца Акруговым Інспэктарам Народнай Асьветы, уваходзіць у аб'яднаны калектыў дашкольных працаўнікоў.

Разам з гэтым вышэйпамянёны........................................................................
(Саюз, капяратыў, ЖАКТ і інш.)

абавязуецца:

1) Адвесьці арганізоўваемаму дзіцячаму ачагу (саду) належным чынам абсталяванае памяшканьне, якое павінна адпавядаць запатрабаваньням гігіэны і санітарыі.

2) Утрымліваць гэту ўстанову за свой кошт, г. зн. забясьпечыць апалам, асьвятленьнем і здавальняць іншыя гаспадарчыя патрэбы, а таксама аплачваць абслугоўваючы пэрсанал ня ніжэй ставак, устаноўленых Прафэсіянальным Саюзам Працаўнікоў Асьветы.

3) Забясьпечыць дзяцей дзіцячага саду (або ачагу) за свой кошт харчаваньнем у часы заняткаў гэтай установы.

Гэтае абавязацельства мае сілу да.........................................192..........г.

Да сканчэньня гэтага тэрміну зачыненьне ўстановы, а таксама і зьмена вышэй памянёных умоў, або вываз з установы абсталяваньня і маемасьці, ці перадача яе трэцяй асобе, не дазваляецца бяз згоды Акруговага Інспэктара Народнае Асьветы.

У выпадку парушэньня..........................................................................
(Саюзам, капяратывам, Сельскім

.......................................................... умоў гэтага абавязацельства—апош-
Саветам, ЖАКТ'ам і інш.)

няе траціць сілу і парушнік гэтай умовы нясе адказнасьць за ўсе страты, якія ад гэтага могуць вынікнуць.

**Подпісы:** ..............................................
..............................................

---

Узгоднена з ЦСПСБ.

## 10. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР

### АБ ДАПАЎНЕНЬНІ І ЗЬМЕНЕ ПАСТАНОВЫ Н. К. ПРАЦЫ БССР ЗА 31 САКАВІКА 1927 г. № 49, „АБ ЧАРГОВЫХ І ДАДАТКОВЫХ ВОДПУСКАХ ДЛЯ РАБОЧЫХ І СЛУЖАЧЫХ".

У дадатак і для зьмены пастановы Н. К. Працы БССР за 31-га сакавіка 1927 г. № 49 „Аб чарговых і дадатковых водпусках для рабочых і служачых" (Бюл. СНК 1927 г., № 8) Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе:

1. Арт. 3 пастановы запісаць у наступнай рэдакцыі:

„Агульная працяжнасьць водпуску не павінна перавышаць тэрміну, устаноўленага для гэтай катэгорыі работнікаў, незалежна ад таго, колькі сьвяточных і выхадных дзён саўпадаюць з часам водпуску.

2. Арт. 7 дапоўніць наступнай увагай:

„Дазваляецца падзел чарговага альбо сумаванага водпуску на часьці, паводле згоды паміж адміністрацыяй і працоўным".

3. Дапоўніць арт. 8 пастановы наступнай увагай:

„У фактычны заробак уключаюцца як асноўная зарплата, так і іншыя віды аплаты працы, якія маюць сталы характар. Адначасовыя

выплаты (нагароды і інш. выдачы) у сярэдні заробак ня ўключаюцца. Узнагарода за звышмерную працу, атрыманая за папярэдні пэрыяд, уключаецца ў сярэдні заробак толькі ў тых прадпрыемствах, дзе гэта праца мае сыстэматычны характар і выклікаецца спэцыяльнымі ўмовамі вытворчасьці.“

4. Арт. 16 пастановы запісаць у наступнай рэдакцыі:

„Асобы, якія працуюць няпоўны рабочы тыдзень, альбо на працягу скарочанага рабочага дню, атрымоўваюць права на скарыстаньне водпуску (асноўнага альбо дадатковага) на агульных падставах пасьля таго, як яны прапрацавалі $5^1/_2$ каляндарных месяцаў“.

*Увага.* Кампэнсацыя за нескарыстаны водпуск, таксама атрыманьне за час водпуску для памянёных у гэтым артыкуле асоб робіцца паводле арт. 8 гэтай пастановы, пры гэтым для працуючых зьдзельна фактычны заробак за апошнія тры месяцы дзеліцца на 72 рабочых дні і памнажаецца на 12—для атрымоўваючых 2-х тыднёвы водпуск (для атрымоўваючых месячны водпуск—на 24).

Дапоўніць пастанову артыкулам 17 наступнага зьместу:

„17. З выданьнем гэтае пастановы трацяць сілу:

а) пастанова Н. К. Працы БССР за 18 мая 1925 г. „Аб чарговых і дадатковых водпусках“і

б) тлумачэньне Н. К. Працы БССР за 2-га ліпеня 1925 г. „Аб прадастаўленьні кампэнсацыі за нескарыстаны водпуск пры зьдзельнай аплаце“ (Бюл. СНК 1925 г., № 4).

Народны Камісар Працы БССР **К. Бэнэк.**

Сакратар Н. К. Працы БССР **Я. Ракаў.**

2 жніўня 1927 г.
№ 73.

---

## 11. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР

АБ ПАРАДКУ РАЗГЛЯДУ ПРАЦОЎНЫХ СПРЭЧАК, ЯКІЯ ЎЗЬНІКАЮЦЬ НА ГРУНЦЕ ЎЖЫВАНЬНЯ НАЙМОВАЙ ПРАЦЫ ДЛЯ АСАБОВАГА АБСЛУГОЎВАНЬНЯ НАЙМАЛЬНІКА І ЯГО СЯМ'І.

Для разьвіцьця арт. 22-га пастановы ЦВК і СНК БССР за 14-га мая 1927 г. „Аб умовах працы хатніх работніц і работнікаў, выконваючых работы асабовага абслугоўваньня наймальніка і яго сям'і“ (З. З. БССР 1927 г. № 25, арт. 117), Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе:

1. Спрэчкі, якія ўзьнікаюць на грунце ўжываньня наёмнай працы хатніх работніц, могуць разглядацца ў народных судох, альбо міравых камісіях пры акруговых камэрах інспэкцый (аддзелах) Працы.

*Увага 1.* Справы аб парушэньні Кодэксу Законаў аб Працы могуць разглядацца выключна ў судовым парадку.

*Увага 2.* Спрэчкі, якія ўзьнікаюць паміж наймальнікамі і хатнімі работнікамі ў раённых і сельскіх мясцовасьцях, разглядаюцца паводле пастановы Народных Камісарыятаў Працы, Унутраных Спраў і Юстыцыі за 21-га кастрычніка 1925 г. „Аб парадку вырашэньня працоўных спрэчак, якія ўзьнікаюць на

грунце ўжываньня наёмнай працы ў сялянскіх гаспадарках" (З. З. БССР 1926 г. № 5, арт. 19), пры гэтым у тых мясцовасьцях, дзе існуюць групкомы прафсаюзу народнага харчаваньня, сябром міравой камісіі з боку працаўніка (п. 6 паказанае пастановы) зьяўляецца прадстаўнік прафсаюзу народнага харчаваньня.

2. Заява, вусная альбо ў пісьмовай форме, аб жаданьні перадаць спрэчку на разгляд міравой камісіі перадаецца аднэй з старон у камэру інспэкцыі (аддзел) працы.

3. Камэра інспэкцыі (аддзел) працы, па атрыманьні заявы аб разглядзе спрэчкі ў міравой камісіі, назначае пасяджэньне не пазьней 5-ці дзён з дню атрыманьня заявы. Аб дню пасяджэньня міравой камісіі стораны апавяшчаюцца пісьмова і пад расьпіску не пазьней, як за 2 дні да пасяджэньня камісіі.

4. Старшынёй міравой камісіі зьяўляецца прадстаўнік камэры інспэкцыі (аддзелу) працы, а членамі: з боку працаўніка—ён сам альбо прадстаўнік прафсаюзу народнага харчаваньня, з боку наймальніка—сам наймальнік альбо яго ўпаўнаважаны.

*Увага 1.* Пытаньне аб паўнамоцтвах прадстаўнікоў старон вырашаецца перад адчыненьнем пасяджэньня міравой камісіі.

*Увага 2.* Упаўнаважаны наймальніка павінен мець адпаведнае паўнамоцтва ад наймальніка, альбо вуснае, перад пасяджэньнем камісіі з занясеньнем у пратакол, альбо ў пісьмовай форме.

5. У выпадку няяўкі прадстаўнікоў аднэй з старон на разгляд канфлікту, справа назначаецца на паўторны разгляд. Пры паўторнай няяўцы справа з міравой камісіі можа быць перададзена кожнай з зацікаўленых старон у суд.

6. Пасяджэньні міравой камісіі зьяўляюцца адчыненымі.

7. Усе спрэчкі, перададзеныя ў міравую камісію, вырашаюцца выключна пры згодзе старон. Старшыня міравой камісіі ня мае пастаноўчага голасу, ён толькі кіруе пасяджэньнем і дапамагае старанам у дасягненьні згоды па ўсіх спрэчных пытаньнях.

Калі згоды паміж старанамі ня будзе дасягнута, канфлікт лічыцца нявырашаным і можа быць перададзены старанамі ў народны суд.

8. На кожным пасяджэньні міравой камісіі павінен запісвацца пратакол паводле далучанага пры гэтым узору. Арыгінал пратаколу знаходзіцца пры справе ў органе Народнага Камісарыяту Працы, старанам-жа выдаюцца, па іх патрабаваньні, завераныя копіі.

9. Усе праведзеныя ў міравой камісіі згоды запісваюцца ў пратакол на тым-жа пасяджэньні, на якім была дасягнута згода, і безадкладна падпісваюцца старанамі і старшынёй міравой камісіі.

10. Згода, падпісаная ў міравой камісіі і падпісаная старшынёй і абодвымі старанамі, зьяўляецца для старон абавязковай і ня можа быць абскарджана.

*Увага.* Падпісаная ў міравой камісіі згода можа быць перагледжана і скасавана ў парадку нагляду органам Народнага Камісарыяту Працы.

11. У выпадку, калі наймальнік адмаўляецца дабравольна выканаць падпісаную ім згоду, орган Народнага Камісарыяту Працы, па заяве работніка альбо прафсаюзу народнага харчаваньня, перадае

афіцыйна заверануюю копію згоды, якая дасягнута ў міравой камісіі з надпісам, які сьведчыць аб законнасьці рашэньня міравой камісіі з погляду падсуднасьці гэтай справы міравой камісіі і адпаведнасьці рашэньня заканадаўству аб працы, разам з усімі матар'яламі па гэтаму канфлікту ў народны суд для атрыманьня выканаўчага ліста для прымусовага выкананьня гэтай згоды.

*Увага.* Парадак выкананьня рашэньняў міравых камісій устанаўляецца аналёгічна арт. арт. 2 і 3 абежніку Н. К. Юстыцыі і Н. К. Працы БССР за 27-ае лістапада 1925 г. № 69 „Аб парадку выкананьня рашэньняў Расцэначна-Канфліктных Камісій“ (З. З. БССР 1925 г., № 44, арт. 360).

Народны Камісар Працы БССР **К. Бэнэк.**

Сакратар Народнага Камісарыяту Працы БССР **А. Круглік.**

Узгоднена:
з Н. К. Юстыцыі БССР:
Нам. Н. К. Юстыцыі БССР **С. Гохман.**
з ЦСПСБ: Загадчык Эканамічна-Тарыфнага Аддзелу **З. Каган.**

4 жніўня 1927 г.
№ 74.

---

ДАДАТАК.

Узор пратаколу пасяджэньня міравой камісіі.

## ПРАТАКОЛ

Пасяджэньня міравой камісіі пры ........................................

за ........................................

Перад пасяджэньнем Камісіі ўстаноўлена, што канфлікт перададзены на вырашэньне Міравой Камісіі па згодзе старон. Вырашэньню Міравой Камісіі падлягаюць пытаньні (дакладна пералічыць, якія пытаньні).

Паўнамоцтвы членаў Міравой Камісіі да пасяджэньня праверайны Старшынёю Міравой Камісіі і зьявіліся правільнымі.

У пасяджэньні прымалі ўдзел—ад хатняй работніцы ....................
—ад наймальніка ....................

Старшыня Міравой Камісіі ....................

1) Заява хатняй работніцы (выкласьці прапанову).
2) Заява прафсаюзу (выкласьці прапанову).
3) Заява наймальніка (выкласьці прапанову).
4) Прапанова Старшыні Міравой Камісіі (калі такая зроблена на пасяджэньні).

П а с т а н а в і л і:

Пасьля разгляду пытаньня стораны прышлі да наступнай згоды: (выкласьці сутнасьць згоды).

Старшыня Камісіі *(подпіс).*

Прадстаўнік Саюзу *(подпіс).*

Працоўны *(подпіс).*

Наймальнік *(подпіс).*

Калі на пасяджэньні прысутнічалі сьведкі, то аб гэтым адзначаецца ў пратаколе, паказаньні сьведак запісваюцца ў пратакол.

Згода, якая запісана ў пратаколе, абавязкова падпісваецца зараз-жа пасьля пасяджэньня.

---

Узгоднена з ВСНГ БССР і ЦСПСБ.

## 12. Тлумачэньне Народнага Камісарыяту Працы БССР

АБ ПАРАДКУ ЎЖЫВАНЬНЯ ПАСТАНОВЫ НАРОДНАГА КАМІСАРЫЯТУ ПРАЦЫ СССР ЗА 20-АЕ ЧЭРВЕНЯ 1927 Г. № 141, „АБ РАЗЬМЕРАХ І ПАРАДКУ ВЫДАЧЫ ПАВЯЛІЧАНЫХ ВЫХАДНЫХ ДАПАМОГ ПРЫ ЗВАЛЬНЕНЬНІ РАБОЧЫХ У СУВЯЗІ З РАЦЫЯНАЛІЗАЦЫЯЙ ВЫТВОРЧАСЬЦІ“.

У дадатак да пастановы Народнага Камісарыяту Працы СССР за 20-е чэрвеня 1927 г. № 141 „Аб разьмерах і парадку выдачы павялічаных выхадных дапамог пры звальненьні рабочых у сувязі з рацыяналізацыяй вытворчасьці“ („Изв. НКТ СССР“ 1927 г. № 21)—Народны Камісарыят Працы БССР—р а с т л у м а ч в а е:

1. Уся БССР належыць да 3 поясу.

2. Як агульнае правіла павялічаная выхадная дапамога павінна выдавацца асобам, звальненьне якіх адбылося пасьля ўваходжаньня ў сілу пастановы Народнага Камісарыяту Працы СССР за 20-е чэрвеня 1927 г. № 141. Павялічаная выхадная дапамога павінна выдавацца таксама і асобам, якія папярэджаны аб звальненьні да гэтага часу, але звольнены ўжо пасьля ўваходжаньня ў сілу паказанай вышэй пастановы Народнага Камісарыяту Працы СССР за 20 чэрвеня 1927 г. № 141.

3. Прэдпрыемствам, якое знаходзіцца ў той-жа мясцовасьці (арт. 3 „б“ пастановы Народнага Камісарыяту Працы СССР) трэба лічыць прадпрыемства, якое знаходзіцца ў даным горадзе ці даным рабочым пасёлку.

4. Павялічаная выхадная дапамога выдаецца выключна рабочым і тым служачым прадпрыемстваў, работа якіх зьвязана непасрэдна з вытворчасьцю (гэта значыць—працяжнасьць рабочага дню якіх ураўнена з працяжнасьцю рабочага дню адпаведнай катэгорыі рабочых).

Народны Камісар Працы БССР **К. Бэнэк.**

Сакратар Народнага Камісарыяту Працы БССР **Я. Ракаў.**

12-га жніўня 1927 г.

№ 75.

---

## Даўно чаканая кніга.

Наша зямельная рэформа, найбольш радыкальная як усе іншыя, якія ведае гісторыя чалавецтва, з‘яўляецца надзвычайна цяжкай і складанай па свайму практычнаму ажыцьцяўленьню. Цяжкасьць правядзеньня яе ў жыцьцё, між іншым, тлумачыцца тым, што Савецкая Ўлада, нацыяналізаваўшы зямлю, абвясьціўшы яе ўласнасьцю дзяржавы, ня імкнецца ўстанавіць раз на заўсёды вызначанага зямельнага парадку, а ставіць сваёй мэтай праз блізкае да жыцьця заканадаўства, праз землябудаўніцтва, капярацыю і г. д. вясьці працоўнае земляробчае насельніцтва да вышэйшых форм землякарыстаньня і разам з тым да калектыўнай земляробчай працы, без якой не магчыма сацыялістычнае будаўніцтва і неабходнае для гэтага максымальнае разьвіцьцё сельска-гаспадарчай прамысловасьці. Але блізкае да жыцьця заканадаўства павінна адпавядаць асаблівасьцям тэй краіны, у якой яно праводзіцца.

У нас, у БССР, пры выданьні свайго зямельнага кодэксу надта цяжка было мяркавацца з нашымі эканамічнымі, гістарычнымі і культурнымі асаблівасьцямі. Апрача гістарычных польскага і расійскага ўплываў на мясцовы ўклад зямельных адносін, насельніцтва БССР нават у часе Кастрычнікавай рэвалюцыі ня мела магчымасьці вытварыць у сябе зямельную рэвалюцыю тым шляхам, якім яна ішла ў РСФСР, бо гэтаму перашкаджалі нямецкая і польская акупацыі, калі паны, адчуваючы сваё нядоўгае панаваньне, стараліся, як найхутчэй, парцаляваць і распрадаваць свае маёнткі і тым яшчэ больш заблытвалі і без таго вельмі складаныя ў нас зямельныя адносіны. Разам з тым трэба адзначыць, што наша БССР з‘яўляецца малазямельнай краінай, а фабрычная прамысловасьць наша занадта слабая, каб даць заробак лішнему насельніцтву.

Зразумела, што пры такіх умовах нам цяжка было адразу здавальняюча стварыць свой зямельны кодэкс. Гэтым тлумачыцца, што тым часам, як у РСФСР да гэтага часу дзейнічае зямельны кодэкс 1922 году, мы прымушаны былі, пасьля выданьня ў 1923 годзе першага нашага Зямельнага Кодэксу ў 1925 годзе выдаць другі, а ў сучасны момант знаходзімся ўжо перад выданьнем трэцяга Зямельнага Кодэксу БССР.

Такім чынам, зямельная палітыка Савецкай Улады і неабходнасьць прыстасаваньня Зямельнага Кодэксу да мясцовых асаблівасьцяй выклікала частае выданьне дадатковых законаў і вялікую працу нашага Народнага Камісарыяту Земляробства па выданьню розных інструкцый, абежнікаў, правіл і г. д. Разам з тым, Асобная Калегія Вышэйшага Кантролю, кіруючы ў напрамку ўзмацненьня рэвалюцыйнай законнасьці судовай практыкай земельных камісій, а праз іх і працай земельных органаў, давала праз пастановы па справах і праз адказы на пытаньні з мест свае тлумачэньні законаў.

Дзякуючы ўсяму гэтаму, у нас, асабліва ў апошнія гады, награмадзіўся вялікі матар'ял закападаўчага, інструкцыйнага і нарматыўнага характару, якім павінен кіравацца кожны зямельны працаўнік і якім часта прыходзіцца карыстацца і селяніну, а, між тым, ня толькі ведаць, а нават і знайсьці патрэбны матар'ял было вельмі цяжка, бо ён быў раскіданы па розных выданьнях, а часткай нават ня быў зусім абвешчаны ў друку.

Па гэтай прычыне даўна ўжо адчувалася патрэба ў сыстэматычным выданьні гэтага матар'ялу. Гэту патрэбу здавальняе выданы працаўнікамі Асобнай Калегії Вышэйшага Кантролю па Зямельных Справах, Зямельны Кодэкс БССР з дадаткамі і растлумачэньнямі. Патрэба ў такім, можна сказаць, афіцыйным зборніку адчувалася ўжо даўна. Апрача тэксту Зямельнага Кодэксу гэта кніга зьмяшчае ў сябе ўсе дзейнічаючыя к моманту выданьня яе законы, інструкцыі, абежнікі, тлумачэньні і г. д. Увесь матар'ял гэты зьмешчаны не дадаткамі ў канцы кнігі, як гэта звычайна робіцца, а разьмешчаны пры тых артыкулах Кодэксу, да якіх гэты заканадаўчы матар'ял тычыцца. Гэта вельмі каштоўна, бо значна палягчае карыстаньне кнігай. У гэтай кнізе вучоны знойдзе матар'ял для вывучэньня нашага дзеючага зямельнага права, працаўнік Наркамзему—падручнік для кіраваньня ў сваёй працы, а селянін—патрэбную яму даведку. Для палягчэньня карыстаньня кнігаю ў канцы яе маюцца прадметны, а таксама і храналёгічны паказчыкі. Трэба прызнаць, што гэта вельмі карыснае выданьне, якое патрабавала ад укладчыкаў яго значнай і ўважлівай працы. Трэба шчыра вітаць з'яўленьне яго ў нашай пакуль што вельмі беднай літаратуры па зямельнаму заканадаўству. Напэўна ім зацікавяцца і ў іншых саюзных рэспубліках.

Нельга не пажадаць гэтай кнізе самага шырокага распаўсюджаньня.

**Д. Чысьцякоў.**

---

Адказны Рэдактар: **Рэдакцыйная Калегія.**